# Пасьпяховыя рэгіянальныя грамадзкія практыкі 2014 году: абмен досьведам і шляхі імплемэнтацыі

• прыклады • высновы • карысныя парады

*матэрыялы круглага стала*



2014 г.

# ЗЬМЕСТ

# ПЁТАР КУЗЬНЯЦОЎ, ГОМЕЛЬ: "ЛЯКАЛЬНЫ АКТЫВІЗМ: ЯК ПАДМЯНІЦЬ САБОЮ ЎЛАДУ"

**1. Апісаньне праблемы, якая падштурхнула да пачатку кампаніі**
Праблема, якая падштурхнула шукаць новыя шляхі для разьвіцьця лякальнага актывізму, палягае ў заўважным крызысе прадэмакратычных НДА і іх дзейнасьці ў лякальным маштабе.

**Што мы маем на ўвазе?**
**Па-першае,** ужо цягам некалькі апошніх гадоў на лякальным ўзроўні фактычна па ўсёй Беларусі не зьяўляюцца новыя грамадзкія лідэры, якія дэманструюць здольнасьць атрымліваць пазытыўную вядомасьць, выклікаць давер грамадзянаў і мабілізоўваць мясцовыя супольнасьці, то бок зьяўляцца мясцовымі лідэрамі ня толькі паводле саміх дэмакратычных НДА ці іх палітычных хаўрусьнікаў, але і ўспрыняцьця насельніцтвам.

**Па-другое,** апошнімі гадамі назіраецца відавочны крызыс у разьвіцьці лякальных грамадзкіх структураў: фактычна, калі ў нейкага НДА ці кааліцыі няма дзейнай каманды ў тым ці іншым раёне, то грамадзкую ці палітычную кампанію там ці не магчыма зладзіць увогуле, ці гэта робіцца камандамі зь іншых месцаў.

**Па-трэцяе,** слабая лякальная актыўнасьць адбіваецца на ўзроўні інфармацыйнай працы, што прыводзіць да таго, што незалежныя НДА, прадэмакратычныя асацыяцыі ці партыі фактычна не прысутнічаюць ў лякальным мэдыйным полі зь нейкім відавочна пазытыўным мэсэджам.

**2. Як гэтая кампанія праходзіла**
Важным стымулам дзеля распрацоўкі і старту кампаніі "**Новая Беліца**" сталася тое, што ў 2012 годзе не адбыліся выбары дэпутата ППНС РБ па Нававеліцкай акрузе гораду Гомеля.

Пералічаныя ў папярэднім пункце чыньнікі ставяць да прадэмакратычных НДА некалькі вострых выклікаў і цэлы шэраг выклікаў больш дробных.

**Што да найбольш вострых, то яны бачацца такімі:**
1) Вылучэньне і прапанова да грамадзтва новых пазытыўных лідэраў з пазытыўным іміджам ды мэсэджам;

2) Праца гэтага лідэра на атрыманьне даверу мясцовага насельніцтва ды нарошчваньне патэнцыялу для мясцовай кансалідацыі й мабілізацыі;
3) Стварэньне сталых лякальных камандаў ці структураў з новых людзей, а таксама выпрацоўка мэханізмаў, якія б дазвалялі ў выпадку неабходнасьці хутка далучаць да працы мясцовых актыўных грамадзянаў ды супольнасьці.

Той факт, што выбары ў Навабеліцы ў 2012 г. не адбыліся, стварыў, на думку ініцыятараў кампаніі, унікальны шанец для яе пасьпяховасьці: зьявілася магчымасьць "прысвоіць" сабе частку паўнамоцтваў, якія мусяць належаць абранаму прадстаўніку людзей ва ўладзе (дэпутату), прынамсі, тую частку, якая тычыцца прадстаўніцтва ды лабіяваньня інтарэсаў супольнасьці перад выканаўчай уладай.

Тварам кампаніі стала адносна новая актывістка Руху "За Свабоду!" і "ГДФ" **Галіна Краўчанка.**

У межах кампаніі каманда "Новай Беліцы" ладзіла шэраг акцыяў па лякальным адвокасі, скіраваных на вырашэньне мясцовых праблемаў альбо сіламі саміх грамадзянаў (выкарыстоўваліся мэдыйныя мэханізмы дзеля іх мабілізацыі), альбо праз лабіяваньне перад мясцовай выканаўчай уладай (у асноўным шляхам збору подпісаў).

Галоўная адметнасьць гэтай кампаніі ад іншых падобных была **ў моцным лякальным мэдыйным складніку,** акрэсьленым мэсэджы ("Новыя лідэры паляпшаюць нашае жыцьцё лепш за дэпутатаў"), акцэнтаваным пазытыўным характарам дзейнасьці (адсутнасьць крытыкі, толькі – прапановы і дзеяньні) і моцных высілках, скіраваных на тое, каб праводзіць працу менавіта рукамі людзей, якія пражываюць у раёне, папярэдне пераканаўшы іх у неабходнасьці гэтага і выклікаўшы, тым самым, іх давер.

**3. Прыклады пасьпяховых дзеяньняў і ня вельмі**
1) Удалая праца "у полі": за паўгода працы кампанія атрымала некалькі значных посьпехаў у вырашэньні лякальных праблемаў раёна – выпраўленьне небясьпечных дзіцячых пляцовак, стварэньне пляцовак для выгулу хатніх жывёлаў, ліквідацыя небясьпечных канструкцыяў ля дзіцячых садкоў і г.д. **Агулам кампанія "Новая Беліца" паведаміла аб больш чым 15 вырашаных мясцовых праблемах раёну;**

2) Удалая мэдыйная праца: за вельмі абмежаваны тэрмін "твар кампаніі" – Галіна Краўчанка, з новага грамадзкага актывіста пераўтварылася ў адну з найбольш вядомых грамадзкіх лідэрак паўмільённага Гомеля, і, дакладна, у

адну такую лідэрку са **100% пазытыўнай вядомасьцю;**

3) Удалая арганізацыйная праца: большасьць лякальных кампаніяў выконваліся, спачатку асабіста Краўчанкай і яе камандай, але пасьля ўдалага асьвятленьня ў СМІ, у выглядзе пазытыўнага прыкладу, да гэтай працы далучылася **шмат мясцовых жыхароў**, у выніку чаго ў Навабеліцы фактычна зьявілася новая супольнасьць актыўных пасіянарных грамадзянаў (да кампаніі Навабеліцкі раён зьяўляўся самым неразьвітым ў Гомелі з пункту гледжаньня наяўнасьці там незалежных грамадзка актыўных структураў);

4) Адзінае, што, як трэба прызнаць, атрымалася ня ў поўнай меры: “пікам” кампаніі павінны былі стаць перавыбары ў ППНС па Навабеліцкім раёне, дзе Галіна Краўчанка павінна была ўзначаліць каманду з цалкам новых і выключна мясцовых актывістаў. Тут не атрымалася зрабіць дзьве рэчы. Першая, хаця ініцыятыўная група Краўчанкі па большай частцы складалася менавіта з жыхароў Навабеліцы, гэта ня быў 100% паказчык. Па-другое, Галіна Краўчанка ня была зарэгістраваная кандыдаткай у дэпутаты, а альтэрнатыўнага мэханізму, як у такой сытуацыі захаваць пазыцыянаваньне галоўнага “народнага лабіста”, у кампаніі не знайшлося.



## 4. Рэкамэндацыі па магчымым выкарыстаньні досьведу ў іншых рэгіёнах

Галоўнае адрозьненьне кампаніі “Новая Беліца” ад шэрагу падобных іншых, скіраваных на атрыманьне даверу ад насельніцтва праз лякальны актывізм, палягае, на наш погляд, у якасных іміджавых, мэдыйных ды інфармацыйных захадах, якія цалкам можна выкарыстаць у іншых рэгіёнах.

**1) Прадʼяўляйце грамадзтву новыя твары.** Падрабязьней аб тым, які ад гэтага можа быць ашаламляльны эфэкт, можна даведацца з працаў расейскіх паліттэхнолягаў што да т.зв. “эфэкту мядовага месяца”. У лякальным маштабе гэта можа спрацоўваць так, як спрацавала з кампаніяй “Новая Беліца” і яе “тварам” – Галінай Краўчанкай;

**2) Прасачыце і пракантралюйце ваш вобраз у СМІ:** ён мусіць быць выключна пазытыўным. Не сварыцеся, не крытыкуйце, не скардзіцеся, не паведамляйце аб няўдачах, хто б ня быў іх прычынай. Прапануйце і заклікайце! Калі ваша мэтавая група – насельніцтва, трэба прапанаваць, заклікаць і тлумачыць. Калі ж мэтавая група – донары, якім трэба патлумачыць сваю няўдачу, можна скардзіцца і крытыкаваць. Людзям патрэбнае вырашэньне праблемаў ці хаця б надзея, а не тлумачэньні, чаму ўлада ня хоча іх вырашаць, а мы – ня можам.

**3) Акцэнтуйцеся на працы зь лякальнымі СМІ,** ці, калі такіх няма альбо яны недастаткова разьвітыя, – з супольнасьцямі ў сацыяльных сетках. Калі навіну пра лякальную акцыю разьмясьціць на “Беларускім партызане”, яе там прачытае тысяча чалавек, на разьвітым мясцовым сайце – тая ж тысяча, і тая ж тысяча – калі распаўсюдзіць яе па некалькі лякальных сацыяльных супольнасьцях. Але з тых, хто прачытае яе на “БелПартызане”, жыхароў вашай мясцовасьці будзе 5-10, а з той тысячы, якая атрымае навіну зь мясцовай крыніцы, 800-900 будуць пражываць менавіта там.

4) Займаючыся вырашэньнем лякальных праблемаў, **імкніцеся пазьбегнуць ці мінімізаваць удзел актывістаў зь іншых раёнаў.** Калі ёсьць патрэба, спачатку рабіце ўсё самі, дэманструючы гэта ў якасьці асабістага пазытыўнага прыкладу, да якога могуць далучыцца астатнія жыхары раёна. Калі працаваць па схеме “сам + мясцовыя”, узьнікае новы ўзровень разуменьня партнэрства з боку менавіта мясцовых жыхароў – вашы высілкі яны ўспрымаюць як нешта вельмі асабістае, а таму – карыснае і добрае.

# ЗІНАІДА ЦІМОШАК, СЛУЦАК: “КАМПАНІІ ПА ВЫРАШЭНЬНІ ПРАБЛЕМАЎ ВЯСКОВЫХ ЖЫХАРОЎ У 2014 ГОДЗЕ”

**1. Апісаньне праблемы, якая падштурхнула да пачатку кампаніі**
У адрозьненьне ад больш-менш цывілізаванага становішча гарадзкіх населеных пунктаў, утрыманьне сельскіх населеных пунктаў у Беларусі не адпавядае існаму заканадаўству. Асабліва ў глыбінцы не выконваецца зямельнае заканадаўства.

Пустуючыя землі ды землі агульнага карыстаньня, за становішча якіх нясуць адказнасьць мясцовыя органы ўлады, зарастаюць лесам, пустазельлем, баршчавіком Сасноўскага, зьяўляюцца рассаднікам энцэфалітных кляшчоў, камароў, лежбішчам дзікіх кабаноў. Таксама неналежным чынам утрымліваюцца супрацьпажарныя вадаёмы, вуліцы вёсак, дарогі да могілак, самі могілкі. Існуе праблема транспартнай сувязі вёсак з раённым і абласным цэнтрамі. Яскравы прыклад такой “глыбінкі” – вёскі Грозаўскага сельскага савету Капыльскага раёну.

Узьнікла ідэя: празь лякальную кампанію прыцягнуць ўвагу грамадзкасьці і чыноўнікаў да праблемаў жыхароў сяла, нецывілізаванага становішча вёсак, актывізаваць насельніцтва на абарону права на ўтульнае навакольнае асяродзьдзе і адпачынак.

**2. Як гэтая кампанія праходзіла**
Інструмэнтамі дзейнасьці сталі індывідуальныя і калектыўныя звароты ў дзяржаўныя органы ўлады, сустрэчы з жыхарамі, інфармацыйна-асьветніцкая кампанія, збор подпісаў, улёткі з вытрымкамі з заканадаўства.

Напачатку ліпеня была створаная арганізацыйная група, у якую ўвайшлі грамадзкія актывісты са Слуцка, а таксама некалькі актывістаў з Капыльскага раёну. У сярэдзіне ліпеня актывісты пабывалі ў вёсках Грозаўскага сельскага савету **(Праснакі, Канюхі, Міхалёўцы, аграгарадок Грозаў, Слабодка, Дубейкі, Балгавічы, Аксаміты, Яўсеевічы, Рыматаўшчына),** сустрэліся зь мясцовымі жыхарамі ды вызначылі асноўныя праблемы, якія людзі хацелі б вырашыць.

Агульную заклапочанасьць у вяскоўцаў выклікала зарослаcьць вёсак пустазельлем і лесам, наступленьне плянтацыі баршчэўніка Сасноўскага,

адсутнасьць лазьні ў аграгарадку Грозаў, дрэннае становішча дарогаў да вёсак Яўсеевічы і Балгавічы, адсутнасьць аўтобуснага злучэньня са Слуцкам у нядзелю. Адсутнасьць дарогі да мэмарыялу ахвярам галакосту, нецывілізаванае становішча старых яўрэйскіх могілак, перабоі ў працы водакалёнак у Грозаве.

Жыхары вёскі Аксаміты, Канюхі, Грозава скардзіліся на пажарную небясьпеку ў сувязі зь няскошанасьцю пустазельля, на вялікую колькасьць кляшчоў, прыход дзікіх жывёлаў па зарослых пустуючых участках на вуліцы вёсак. Па гэтых праблемах і вырашана было папрацаваць.



У выніку маніторынгу быў напісаны артыкул "Падарожжа па праблемах вясковых людзей", які зьявіўся на розных інтэрнэт-сайтах ("Новы час", "Гавары праўду"), у рэгіянальнай слуцкай газэце "Інфа-кур'ер" ды іншых, у газэтах "Новы час" і "Свободные новости".

Праблемай вёскі Канюхі зацікавілася радыё Свабода, карэспандэнт Зьміцер Бартосік разам з кіраўнічкай ініцыятывы Зінаідай Цімошак выехалі адмыслова ў вёску Канюхі, дзе быў створаны рэпартаж "Канюхі – гарачая кропка

Беларусі” ў межах радыёперадачы “Падарожжа Радыё Свабода”.

Наступным этапам дзейнасьці было складаньне індывідуальнага звароту **Зінаіды Цімошак** у Капыльскі райвыканкам і раённы савет дэпутатаў. 17 ліпеня 2014 г. адбылася сустрэча з кіраўніком Капыльскага райвыканкама і старшынём Капыльскага раённага савету дэпутатаў. Пісьмовыя звароты да кожнага кіраўніка былі ўручаныя кожнаму індывідуальна. Адбыліся таксама сустрэчы з былым кіраўніком Грозаўскага сельскага савету Абрамовічам В.Я., зь дзейсным старшынёй сельскага савету Скрыган Ж.Л.

**З 26 ліпеня па 4 жніўня актывісты зьбіралі па вёсках подпісы ў падтрымку калектыўных зваротаў.** Усяго было накіравана 7 калектыўных зваротаў па розных праблемах, агульная колькасьць подпісаў – 525.

Апрача гэтага, 19 жніўня і 22 жніўня кіраўнічка ініцыятывы наведала дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу (у вёсцы Быстрыца Капыльскага раёну – **Бойку Анатоля** і дэпутата **Кляшчук І.А.** у г. Слуцку). Падчас прыёму ўручыла звароты да дэпутатаў Парлямэнта, у якіх выказала думку аб неабходнасьці зьменаў у падыходах да ўтрыманьня сельскіх населеных пунктаў. Усе гэтыя захады прымусілі кіраўніцтва Капыльскага райвыканкама адрэагаваць і правесьці 20 жніўня 2014 г. сельскага сходу ў Грозаўскім доме культуры, на якім апрача жыхароў прысутнічалі кіраўнікі ўсіх раённых службаў.

На сход прыехалі некалькі актывістаў кампаніі, а таксама журналісты тэлекампаніі “БЕЛСАТ”, якія зьнялі ролік для юрыдычнай праграмы “Маю права” пад назвай “Абсурд у Грозаве”. Відэаролік трансьляваўся 6 верасьня на канале праграмы, а таксама на сайце “Новы час”.

6 верасьня адбыўся сход актывістаў кампаніі **“Ўспомнім пра вёску”,** якія разгледзелі прамежкавыя пазытыўныя вынікі работы ў межах кампаніі. На гэтым сходзе 8 актывістаў падпісалі звароты да 17 дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па Менскай вобласьці, у якіх выказалі заклапочанасьць нецывілізаваным выглядам беларускіх вёсак і спадзяваньне на тое, што, кіруючыся сваім статусам, дэпутаты ўнясуць адпаведныя зьмены ў заканадаўства з тым, каб жыхары вёсак мелі свае канстытуцыйныя правы на ўтульнае навакольнае асяродзьдзе, здароўе і адпачынак не на паперы, а ў рэальным жыцьці.

У канцы верасьня быў атрыманы адказ з Палаты Прадстаўнікоў, у якім гаварылася аб тым, што грамадзяне на месцах мусяць больш актыўна

карыстацца існуючымі законамі, і дзейснага заканадаўства дастаткова, каб утрымліваць сельскія населеныя пункты ў цывілізаваным стане.

Паколькі актывізацыя насельніцтва цесна зьвязаная зь веданьнем элемэнтарных законаў, у верасьні была распрацаваная Памятка для жыхароў вёсак. Яна ўтрымлівае вытрымкі з артыкула 46 Канстытуцыі РБ (права на ўтульнае навакольнае асяродзьдзе), Правілы ўтрыманьня населеных пунктаў Беларусі, Кодэксу аб адміністратыўных правапарушэньнях.

15 верасьня 2014 г. актывісты распаўсюдзілі каля **600 памятак** зь лягатыпам кампаніі **"Зробім лепш!"** сярод жыхароў Грозаўскага сельскага савету, а таксама ў некалькіх вёсках Слуцкага раёну.

**У выніку кампаніі да сярэдзіны верасьня 2014 году многія з узьнятых пытаньняў былі вырашаныя альбо знаходзяцца на стадыі вырашэньня:**
1. Зьнішчана шматгадовае пустазельле ў вёсцы Аксаміты і аграгарадку Грозаў. У вёсцы Аксаміты часткова зьнішчаны хмызняк на месцах сядзібаў. Старшыня сельскага выканаўчага камітэту актывізавала працу па пошуку ўладальнікаў пустуючых сядзібаў, загадала навесьці парадак у гэтай справе.
2. Адрамантаваныя ды адчыненыя душавыя кабіны для жыхароў аграгарадка Грозаў.
3. Выкананы ямачны рамонт асфальтавай дарогі Яўсеевічы-Капыль, ямачны рамонт дарогі Слуцак-Капыль праз Грозаў.
4. Адчынены дадатковы аўтобусны рэйс з Капыля на Слуцак празь вёскі Грозаў, Міхалёўцы, Канюхі, як і хацелі вяскоўцы.
5. На старых яўрэйскіх могілках вынішчаны хмызьняк.
6. Пачалася распрацоўка каштарыснай дакумэнтацыі для стварэньня дарогі да помніку ахвярам галакосту.
7. Засыпаныя ямы на дарозе ў вёсках Слабодка і Дубейкі.
8. Капыльскае ДРБУ зьнішчыла хмызьняк і абкасіла абочыны дарогаў, якія мяжуюцца зь землямі прадпрыемства "Грозаў-агра".
9. Актывізавалася дзейнасьць сельскага выканаўчага камітэту па навядзеньні парадку на ўсіх вясковых могілках, сабраныя сродкі на будаўніцтва агароджаў вакол могілак.

У канцы верасьня быў накіраваны зварот у Міністэрства ЖКГ з мэтай прыцягненьня ўвагі міністэрства да праблемаў вясковых жыхароў. Міністэрства пераслала зварот у Менскі аблвыканкам. У адпаведнасьці з даручэньнем першага намесьніка Менскага аблвыканкаму ў Грозаўскі сельскі савет выяжджала камісія ў складзе прадстаўнікоў Менскага абласнога цэнтра

гігіены, эпідэміялёгіі і грамадзкага здароўя, Капыльскага раённага цэнтру гігіены, ЖКГ Менскай вобласьці, Менскага абласнога камітэту прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяродзьдзя, Капыльскага раённага Савету дэпутатаў. У выніку былі распрацаваныя пляны мерапрыемстваў па добраўпарадкаваньні ўсіх населеных пунктаў Грозаўскага сельскага савету, а старшыня Грозаўскага сельвыканкама Скрыган Ж.Л. прыцягнутая да адміністратыўнай адказнасьці.

**3. Прыклады таго, што атрымалася найлепей і што не атрымалася ўвогуле**

Падводзячы вынікі гэтай кароткай кампаніі, трэба сказаць, што ўдалося на лякальным узроўні прыцягнуць увагу мясцовых чыноўнікаў да існых вясковых праблемаў. Таксама здолелі адкрыць аўтобусны маршрут паміж Капылём і Слуцкам, ды зараз людзі змогуць рэальна ажыцьцявіць сваё права на перамяшчэньне. У ходзе кампаніі ў вёсках Грозаў і Яўсеевічы зьявіліся свае актывісты, якія хочуць і надалей змагацца за свае правы. Людзі пачалі разумець, што абʼядноўваючы свае калектыўныя намаганьні, можна зрушыць нават “цяжкі воз”.

Таксама ўдалося зацікавіць і асобныя інтэрнэт-мэдыя гэтай праблемай, пра што сьведчаць шматлікія публікацыі.

Не атрымалася давесьці да сьвядомасьці дэпутатаў Нацыянальнага Сходу неабходнасьць унясеньня зьменаў у існае заканадаўства, каб замацаваць рэальна дзейсны мэханізм утрыманьня сельскіх населеных пунктаў у цывілізаваным стане, ды закласьці адпаведную фінансавую базу для выкананьня заканадаўства.

Лічу, што падобную практыку можна распаўсюдзіць на ўсе рэгіёны краіны з мэтай наданьня цывілізаванага выгляду сельскім населеным пунктам.

**4. Рэкамэндацыі па магчымым выкарыстаньні досьведу ў іншых рэгіёнах**

**1. Правесьці маніторынг становішча сельскіх населеных пунктаў.**
2. Празь індывідуальныя і калектыўныя звароты **нагадаць чыноўнікам пра існае заканадаўства і дамагацца выкананьня законаў.**
3. Давесьці да сьвядомасьці сельскага насельніцтва інфармацыю аб канстытуцыйным праве на ўтульнае навакольнае асяродзьдзе, існых правілах утрыманьня населеных пунктаў Беларусі.
**4. Знаходзіць актыўных людзей у вёсках,** якія маглі б адстойваць свае правы і дапамагаць суседзям у гэтай працы.

5. Праз напісаньне розных тэматычных артыкулаў **прыцягнуць увагу нацыянальнай прэсы да гэтай праблемы.**
6. Прыцягнуць увагу незалежных юрыстаў да праблемы, правільна сфармуляваць неабходныя дапаўненьні ў дзейныя законы ды **зьвярнуцца ў Камісію па заканадаўству Нацыянальнага сходу.**

# АЛЕСЯ ЯРОШЧЫК, БЕРАСЬЦЕ: “КАМПАНІЯ СУПОЛЬНАСЬЦІ РАВАРЫСТАЎ ПА ФАСЫЛІТАЦЫІ ПЕРАСЯЧЭНЬНЯ БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКАЙ МЯЖЫ”

**1. Апісаньне праблемы, якая падштурхнула да старту кампаніі**
У сучасным сьвеце роварны рух набірае ўсё большую папулярнасьць. Што ня дзіўна, бо ровар – гэта від транспарту, які пазытыўна ўплывае на здароўе чалавека, дазваляе дастаткова хутка і незалежна ад раскладу грамадзкага транспарту дабрацца ў патрэбную кропку, а таксама не забруджвае навакольнае асяродзьдзе шкоднымі выкідамі.

Берасьце падзяляе агульную любоў да роварнага руху. З кожным годам на вуліцах гораду зьяўляецца ўсё болей раварыстаў. Аднак мы, раварысты, сутыкаемся з такімі праблемамі, як высокія бардзюры, адсутнасьць роварных парковак і дарожак.

Кампанія “За Вела-Брэст!” праводзіць флэшмобы, зборы подпісаў, масавыя акцыі для прыцягненьня ўвагі грамадзкасьці й мясцовых уладаў да праблемы вольнага роварнага перасоўваньня па горадзе.

**Адна з апошніх яскравых акцыяў – “Адкрытыя межы для ровараў!”.**

Прычынай актыўных дзеяньняў стала забарона прасоўваньня на роварах праз пункт пропуску “Варшаўскі мост” на мяжы Беларусі й Польшчы. Але ж гэта выдатны спосаб для падарожжа праз блізкія межы, роварнага турызму й сяброўства з роварнымі клюбамі суседніх краінаў. Беларускія памежнікі раварыстаў прапускаюць, аднак польскі бок не жадае іх прымаць, апраўдваючыся адсутнасьцю інфраструктуры (дадзенае апраўданьне не вытрымлівае крытыкі, бо ў пункце пропуску дазволена перасоўвацца на мапэдах). Магчымасьць пераехаць мяжу на ровары мелі толькі арганізаваныя групы па папярэдняй заяўцы.

У прыватнасьці, было вырашана дабівацца бесьперашкоднага пропуску раварыстаў празь мяжу ў пункце пропуску “Варшаўскі мост”.

**2. Як праходзіла кампанія**
Быў створаны афіцыйны зварот з пэўнымі патрабаваньнямі. Пад зваротам, як у Беларусі, так і ў Польшчы, зьбіраліся подпісы, у тым ліку анляйн

(пляцоўкі petycje.pl, change.org). Каманда зь пяці берасьцейскіх роварных актывістаў адправілася ў рэйд праз памежныя гарады Польшчы, каб заручыцца падтрымкай мясцовых жыхароў. У Бяла-Падлясцы, Мэндзыжэц-Падлясцы, Радзынь-Падлясцы, Любартаве й Любліне было сабрана 1000 подпісаў. Агульная колькасьць подпісаў, сабраных у Беларусі й Польшчы, склала 3000. Таксама валянтэры кампаніі распаўсюдзілі каля 1000 інфармацыйных улётак.

**3. Прыклады таго, што атрымалася лепей і што не атрымалася**
Акцыя прыцягнула ўвагу мясцовых уладаў Люблінскага ваяводзтва, роварных клюбаў, СМІ. Дзякуючы гэтай акцыі, ініцыятыва "За Вела-Брэст!" набыла новага партнэра ў Польшчы – клюб "LublinRowerem".

Працягам кампаніі будзе асьвятленьне адказу памежнага камітэту Польшчы. Усе далейшыя мерапрыемствы будуць заплянаваныя ў залежнасьці ад адказу. На дадзены момант зьявіўся новы зьнешні фактар, які нэгатыўна ўплывае на пасьпяховасьць: з 1 кастрычніка 2014 году беларускі бок забараніў пешы пераход мяжы ва ўсіх пунктах пропуску http://dzedzich.org/wp/2014/09/23/s-1-oktyabrya-hodit-peshkom-cherez-granicu-s-es-zapreshheno/ Як гэтае новаўвядзеньне закране раварыстаў, будзе вядома зь перапіскі з памежным камітэтам Беларусі.

**4. Рэкамэндацыі па выкарыстаньні досьведу ў іншых рэгіёнах**
- Сабраць дружную каманду, якая жадае дзейнічаць.
- Акрэсьліць канкрэтную праблему ды вызначыць шляхі яе вырашэньня.
- Разгледзець рызыкі ды магчымасьці.
- Заручыцца падтрымкай грамадзкіх арганізацыяў альбо роварных клюбаў суседняй краіны, на якую накіраваная вашая акцыя, папрасіць іх далучыцца да непасрэднага збору подпісаў.
- Сабраць подпісы ў некалькіх гарадох вызначанай краіны, што надасьць большую важнасьць вашым дзеяньням. Пры гэтым гарады могуць быць з рознай колькасьцю насельніцтва.
- Сабраць прэзэнтатыўную колькасьць подпісаў.
- Зрабіць шырокі розглас акцыі ў СМІ (за мяжой радыё, ТБ і газэты, як правіла, з радасьцю разьмяшчаюць падобную інфармацыю).
- І вядома, даць ход сабраным подпісам, адправіць іх па некалькіх адрасах (ваяводзе, памежнаму камітэту, замежнаму кіраўніку па працы з грамадзкасьцю і г.д.).

# ВІКТАР СЫРЫЦА, БАРАНАВІЧЫ: “БАРАНАВІЦКІ РАЗВАДОЎСКІ ФЭСТ ЯК УДАЛАЯ СПРОБА АБ’ЯДНАНЬНЯ МЯСЦОВАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ ВАКОЛ ІДЭІ ЗАХАВАНЬНЯ ГІСТОРЫІ ГОРАДУ”

**1. Апісаньне праблемы, якая падштурхнула да рэалізацыі ідэі**
Баранавічы сёньня – вялікі для сучаснай Беларусі рэгіянальны горад, які па духу традыцыйна савецкі, не беларускі. У цэнтры Баранавічаў папаранейшаму стаіць помнік правадыру бальшавікоў Леніну, да якога два разы на год (22 красавіка і 7 лістапада) некалькі камуністаў-пэнсіянэраў ускладаюць чырвоныя іскаркі. Але мала хто з жыхароў гораду ведае, што вёска Баранавічы ў другой палове 19 стагодзьдзя стала мястэчкам, а затым горадам, дзякуючы стваральнай працы графа **Яна Развадоўскага,** чыё імя незаслужана занядбана.

Мы хочам зрабіць імя заснавальніка гораду Баранавічы графа Яна Развадоўскага больш вядомым і пазнавальным. У недалёкай пэрспэктыве дамагчыся ад гарадзкіх уладаў усталяваньня ў цэнтры Баранавічаў помніка ў гонар Яна Развадоўскага. Цэнтральную плошчу Леніна перайменаваць у плошчу Яна Развадоўскага. А вуліцы Савецкай надаць яе першаснае імя – Марыінская. **Да нас у Баранавічах ніхто і ніколі так шырока не прапагандаваў жыцьцё й дзейнасьць заснавальніка гораду.** Мы паступова зьмяняем грамадзкую думку на карысьць гэтага, далучаем новых людзей да працы па дэсаветызацыі роднага краю, аб’ядноўваем мясцовую супольнасьць вакол важнай гістарычнай фігуры.

**2. Апісаньне таго, як ідэя была ўвасобленая**
Для гэтага прадстаўнікі недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў гораду імкнуцца як мага шырэй прапагандаваць ня столькі імёны, а больш справы Яна Развадоўскага (будаўніцтва першага гарадзкога тэатра, пошты, касьцёлу, прыцягненьне капіталу для прамысловага й культурнага разьвіцьця гораду, дабрачыннасьць).

Пры дапамозе студэнтаў-валянтэраў, моладзевых актывістаў, сяброў і прыхільнікаў грамадзкіх арганізацыяў гораду Баранавічы і Баранавіцкага раёну мы арганізавалі талаку па добраўпарадкаваньні вуліцы Развадоўскага, конкурс малюнкаў для дзяцей, правялі агульнагарадзкую віктарыну ў гонар Яна Развадоўскага ў газэце “Інтэкс-прэс” і краязнаўчую канфэрэнцыю.

Але галоўным мерапрыемствам у гонар заснавальніка Баранавічаў стаў "Развадоўскі фэст", які мы правялі 23 жніўня 2014 году ў межах кампаніі **Асамблеі НДА "Зробім лепш!".**

Удзельнікі імпрэзы пазнаёміліся з жыцьцём і дзейнасьцю землеўладальніка Яна Развадоўскага, праслухалі канцэрт майстроў мастацтва, прысьвечаны ролі графа Развадоўскага ў гісторыі Баранавічаў, елі аладкі й "развадоўскую кашу" на сьвежым паветры. А пераможцы агульнагарадзкой віктарыны ў гонар Яна Развадоўскага атрымалі каштоўныя падарункі й прызы.

Усе мерапрыемствы ў межах Развадоўскага фэсту мелі вялікае пазнавальнае і інфармацыйнае значэньне. У вачох грамадзянаў нашага гораду граф Развадоўскі паўстаў не як жорсткі капіталіст-эксплюататар, а сапраўдны заснавальнік гораду Баранавічы, чыё імя заслугоўвае насіць цэнтральная плошча гораду.




**3. Прыклады таго, што атрымалася найлепей і што не атрымалася ўвогуле**

Найлепей нам удалося правесьці віктарыну й сам "Развадоўскі фэст" зь вялікім і прыгожым канцэртам майстроў мастацтва. Безумоўна, усім удзельнікам фэсту запомнілася "развадоўская каша." Мы асьвятлялі нашыя мерапрыемствы на гарадзкіх сайтах (baranovichi.by, vsebar.by, intex-press.by)

ды рэспубліканскіх (pyx.by, svaboda.org, racyja.com, belngo.info), а таксама ў сацыяльных сетках.

Але навукова-краязнаўчая канфэрэнцыя, прысьвечаная ролі графа Развадоўскага ў гісторыі Баранавічаў, прайшла найменш пасьпяхова праз тое, што мы не змаглі запрасіць на гэтую канфэрэнцыю супрацоўнікаў баранавіцкага краязнаўчага музэя й найлепшых знаўцаў жыцьця й творчасьці Яна Развадоўскага.

**Аднак вернемся да пазытыву.** Найперш, мы паказалі ўсім, што такія вялікія й значныя мерапрыемствы, як "Развадоўскі фэст", магчыма правесьці толькі аб'яднанымі намаганьнямі.

**Мы рэкамэндуем таксама ўсім НДА паступова перацягваць на свой бок, калі не дзяржаўныя структуры, то хоць бы асобных іх прадстаўнікоў у справе дэсаветызацыі беларускага грамадзтва.** Таму мы будзем супрацоўнічаць з гарадзкімі музэям і бібліятэкамі, аддзеламі культуры рай(гар)выканкамаў. Мы й далей будзем накіроўваць лісты і прапановы ў мясцовыя дзяржаўныя структуры з выяваю Яна Развадоўскага, што зробіць яго імя больш вядомым сярод чыноўнікаў і дзяржаўных служачых.

Мы прапанавалі Баранавіцкай тэлекампаніі "Інтэкс" стварыць тэлеперадачу **"Чыё імя павінна насіць цэнтральная плошча Баранавічаў?"** Напрыканцы году мы падрыхтуем зварот ў гарадзкі савет дэпутатаў і гарвыканкам, каб у 2015 годзе гарадзкія ўлады падрыхтавалі й выканалі плян мерапрыемстваў па ўшанаваньні памяці заснавальніка гораду Баранавічы Яна Развадоўскага.

На гарадзкіх сайтах (baranovichi.by, vsebar.by, intex-press.by) і ў школьных і гарадзкіх бібліятэках гораду мы створым інфармацыйныя матэрыялы для папулярызацыі жыцьця і дзейнасьці заснавальніка гораду Баранавічаў Яна Развадоўскага.

Мы плянуем зрабіць Развадоўскі фэст пастаянным (напачатку раз у тры гады), а потым штогадовым – з мэтаю прапаганды не савецкіх правадыроў, а знакамітых асобаў гораду Баранавічы й беларускай культуры.

**4. Рэкамэндацыі па магчымым выкарыстаньні досьведу ў іншых рэгіёнах**

1. Быць патрыётам сваёй зямлі і знаўцам гісторыі свайго краю.

2. Аб’яднаць вакол сябе як мага болей аматараў гісторыі і культуры Беларусі.
3. Шукаць сярод мясцовых прадпрымальнікаў такіх людзей, якія б ня толькі спачувалі вашай дзейнасьці, але й маглі б аказаць матэрыяльную ды арганізацыйную дапамогу.
4. Трэба мець цесныя творчыя і арганізацыйныя зносіны ня толькі зь мясцовымі краязнаўчымі музэямі, бібліятэкамі і іншымі ўстановамі культуры, але і, па магчымасьці, зь дзяржаўнымі структурамі, адказнымі за арганізацыю культурніцкіх мерапрыемстваў.

# АЛЯКСЕЙ ЛУЖЫНСКІ, ВЯЛЕЙКА: “КРАЯЗНАЎЧЫЯ ПРАЕКТЫ ЯК ЭФЭКТЫЎНЫ СПОСАБ ПРЫЦЯГНЕНЬНЯ МОЛАДЗІ Ў ГРАМАДЗКІ СЭКТАР”

**1. Апісаньне праблемы, якая падштурхнула да рэалізацыі ідэі**
На ўвасабленьне гэтай ідэі нас падштурхнуў шэраг праблемаў. Агульная слабая грамадзкая актыўнасьць жыхароў Вялейшчыны ў галіне аховы гісторыка-культурнай спадчыны, слабая гістарычная памяць, кепскі стан важных помнікаў гісторыі й культуры ў Вялейскім раёне. І, канечне ж, малая заангажаванасьць мясцовай моладзі ў грамадзкую актыўнасьць.

**2. Апісаньне таго, як ідэя была ўвасобленая**
Першы этап – фотаконкурс на вялейскім сайце http://vialejka.info. Было атрымана амаль паўсотні працаў.

Па выніках конкурсу былі вылучаныя два сьпісы пераможцаў – паводле глядацкіх сымпатыяў і па выбары журы. Глядацкія сымпатыі ацэньваліся колькасьцю ўпадабаньняў у сацыяльных сетках. Пераможцы ў абедзьвюх намінацыях атрымалі прызы (кніжкі па гісторыі Вялейшчыны, флэшкі). Здымкі, якія былі адабраныя журы, працягнулі ўдзел у далейшых этапах. Дзесяць здымкаў былі надрукаваныя ў выглядзе паштовак і экспанаваліся на фотавыставе.

Адкрыцьцё фотавыставы было зладжана ў выглядзе адмысловай імпрэзы. Падчас адкрыцьця былі ўзнагароджаныя ўдзельнікі фотаконкурсу. Усе прысутныя атрымалі наборы паштовак.

Таксама была зладжаная акцыя ў сацыяльных сетках. Кожны, хто хацеў атрымаць паштоўку па звычайнай пошце, мусіў выканаць некалькі ўмоваў. Трэба было падпісацца на нашыя старонкі ў сацыяльнай сетцы й разьмясьціць паведамленьне пра акцыю на сваёй сьцяне. Паштоўкі падпісваліся наўпрост на адкрыцьці выставы. Усяго адаслалі больш за 60 паштовак.

Фотавыстава працягвае дзейнічаць, пэрыядычна зьмяняючы месца экспазыцыі. Паштоўкі распаўсюджваюцца на імпрэзах “ВОЛАТа”.

**3. Прыклады таго, што атрымалася найлепей**
Наша дзейнасьць прыцягнула ўвагу грамадзкасьці да праблемы захаваньня

гісторыка-культурнай спадчыны. Для нашай ініцыятывы было важна, што далучыліся людзі, якія займаюцца фатаграфіяй, у тым ліку прафэсійна. Падчас правядзеньня выставы гледачы, якія былі на нашым мерапрыемстве ўпершыню, выказвалі жаданьне прымаць удзел у дзейнасьці ініцыятывы "Волат". Быў выпушчаны якасны інфармацыйны прадукт у выглядзе паштовак, што падвысіла аўтарытэт нашай ініцыятывы й беларускай культуры.

**4. Рэкамэндацыі па магчымым выкарыстаньні досьведу ў іншых рэгіёнах**

1. Фотапраекты, пабудаваныя па падобнай схеме, можна праводзіць у розных рэгіёнах Беларусі. **Тэматыка такіх праектаў можа закранаць разнастайныя актуальныя праблемы, не абмяжоўваючыся гісторыка-культурнай спадчынай.**
2. Адзін з важных аспэктаў тут і **далучэньне да актыўных грамадзкіх працэсаў людзей** з "блізкіх" сацыяльных групаў: мастакоў, фатографаў, турыстаў ды г.д.
3. Важна, каб такія дзеяньні плаўна перацякалі ў далейшую працу. Каб выстава экспанавалася, фотаздымкі й паштоўкі з конкурсу выкарыстоўваліся і распаўсюджваліся, **наладжаныя кантакты выліваліся ў доўгатэрміновае супрацоўніцтва.** У нашым выпадку так і адбываецца.



# РЭКАМЭНДАЦЫІ ДЛЯ АКТЫВІСТАЎ НДА, АГУЧАНЫЯ НА КРУГЛЫМ СТАЛЕ “ПАСЬПЯХОВЫЯ РЭГІЯНАЛЬНЫЯ ГРАМАДЗКІЯ ПРАКТЫКІ 2014 ГОДУ: АБМЕН ДОСЬВЕДАМ І ШЛЯХІ ІМПЛЕМЭНТАЦЫІ”

- Трэба шукаць новых лідэраў і новыя твары для кожнай кампаніі.
- Варта імкнуцца мець сваё памяшканьне, якое дапамагае людзям гуртавацца і праводзіць мерапрыемствы легальна.
- Выданьне якаснай сучаснай інфармацыйнай прадукцыі паляпшае імідж НДА.
- Збор подпісаў і пэтыцыі застаюцца важнымі і даступнымі сродкамі дзейнасьці для НДА. Рэгіянальным актывістам варта таксама актыўна карыстацца электроннымі зваротамі.

## СМІ і сацыяльныя мэдыя

- Варта клапаціцца пра свой вобраз у мэдыях і сацыяльных сетках.
- Неабходна найперш працаваць зь мясцовай прэсай, а не арыентавацца на тое, каб навіны пра вашу дзейнасьць траплялі ў нацыянальныя мэдыя.
- Публікацыя аб вашай дзейнасьці на старонках дзяржаўнай прэсы часта дазваляе зьнізіць недавер да дзейнасьці НДА.

## Праца зь мясцовым насельніцтвам

- Варта інфармаваць мясцовых людзей пра кампаніі і імпрэзы на ўсіх этапах іх ажыцьцяўленьня.
- Неабходна прыцягваць да сваёй дзейнасьці, перадусім, мясцовых жыхароў, а ня толькі актыўных грамадзянаў.
- Трэба інфармаваць людзей ня толькі аб праблемах, але і акцэнтаваць увагу на пасьпяховых прыкладах іх вырашэньня.
- Уласным прыкладам паказваць стваральную працу (праводзіць талокі па прыборцы або добраўпарадкаваньні, а ня толькі патрабаваць гэтага ад мясцовых уладаў).

### Супраца зь мясцовымі ўладамі

- Менш крытыкаваць (лепей нікога не крытыкаваць увогуле) — болей рабіць.
- Дасылаць інфармацыю аб існых праблемах у выглядзе копіяў апублікаваных у СМІ артыкулаў ня толькі мясцовым жыхарам, але і ўладам.

